# АРШАНШЧЫНА БЕЛАРУСКАМОЎНАЯ

### *"Моўная стыхія Уладзіміра Караткевіча"*

Пад такой назвай у аднайменным музеі літаратара-земляка ў Оршы адбыўся "круглы стол", прысвечаны Дню роднай мовы. І адбылася гэтая імпрэза якраз за тыдзень да 21 лютага. Асаблівасцю гэтага дзейства было тое, што асноўную частку прысутных складалі школьнікі. На гэтае знакавае мерапрыемства быў запрошаны намеснік загадчыка кафедры беларускага мовазнаўства, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Машэрава В.Э. Зіманскі, які правёў з прысутнымі, а гэта ў асноўным былі вучні мясцовых школ, цікавую і вельмі пазнавальную лекцыю-урок па беларускім мовазнаўстве, па асаблівасцях розных моў, а таксама па гісторыі і сучасным стане роднай мовы.

Рэфрэнам усяго мерапрыемства гучала: *"... родную мову трэба берагчы, як сваю ўласную будучыню..."* І гэта змястоўна і даходліва прадэманстравала група школьнікаў СШ № 9, якая яскрава прадставіла імпрэзу па творах Кастуся Цвіркі і Якуба Коласа. Некалькі літаратурных тэатралізаваных пастановак зрабілі вучні гэтай школы, якіх з'арганізавала і падрыхтавала да выступлення настаўніца СШ №9 Н.А. Міхновіч - вялікі аматар і знаўца беларушчыны. За вялікую душэўнасць, дабрату і адданасць беларускай мове яе любяць не толькі вучні, а і многія сталыя аршанцы.

З вялікай цікавасцю праслухалі вучні і ўсе прысутныя нізку вершаў удзельніка творчага літаратурнага аб'яднання "Дняпроўскія галасы" Ірыны Еўланавай, якая прызналася, што размаўляць і пісаць па-беларуску яна пачала ўжо ў даволі сталым узросце (зараз ёй 50 гадоў), і яна так захапілася роднай мовай, што раіць усім, асабліва школьнікам, размаўляць на роднай мове з ранніх гадоў.

Вядоўца ўсёй гэтай імпрэзы загадчыца музея Л.А. Гатоўская якраз напомніла прысутным, як бязмерна любіў беларускую мову У.С. Караткевіч, што і выказаў у вершы "Мова"

*Ты мой ясны хлеб і каханы май,*
*Песня продкаў,*
*нашчадкаў палі,*
*Без цябе, не з табой -*
*не патрэбны мне рай*
*На душы, у небясі, на зямлі.*

У заключэнні Ліна Афанасаўна адзначыла, што кожны беларус павінен ганарыцца сваёй мовай, ведаць, любіць і шанаваць яе: *"Мы ў сваю чаргу будзем і надалей працягваць увасабляць планы У.С. Караткевіча па папулярызацыі беларускай мовы ў розных мерапрыемствах на базе музея нашага земляка".*

І трэба прызнаць, што гэтая дзяржаўная ўстанова культуры многае робіць у плане папулярызацыі беларушчыны ў нашым усходнім рэгіёне. А ад гэтага на душы становіцца цяплей і радасней.

***Мінай Карніенка,***
*сябар ТБМ, г. Орша.*

### *Тыдзень беларускай мовы на Аршаншчыне*

На гэты раз беларуская мова на Аршаншчыне лунала амаль што цэлы тыдзень. Прычынай таму было, вядома - ж, добрае свята "Міжнародны дзень роднай мовы". Не засталіся ў баку ад міжнароднай культурнай ініцыятывы ў дамах культуры і бібліятэках, школах і садках, музеях. "Аршанская газета" напярэдадні раіла сваім чытачам: *"Калі нядзелю вы мусіце правесці дома, знайдзіце вольны час, каб далучыцца да роднай мовы: пачытайце вершы ці апавяданні, паслухайце песні на ёй".* Для ўсходняга зрусіфікаванага рэгіёна такая парада з боку ўладнага органа "дарагога каштуе".

Не засталася ў баку ад Міжнароднага дня моваў і Аршанская суполка ТБМ імя Ф. Скарыны. Да нас былі запрошаны і прыехалі ў суботу 20 лютага са сталіцы Лявон Баршчэўскі, Уладзімір Арлоў, Уладзімір Колас і іншыя. На працягу ўсёй сустрэчы бард Зміцер Бартосік добра аздабляў літаратурныя і моўныя разважанні выступоўцаў беларускімі бардаўскімі песнямі пад любімую гітару.

Але гэтага ўсяго нам здалося мала і, узяўшы, так бы мовіць, добры разбег, мы сабраліся зноў ужо ў самае моўнае свята, у нядзелю якраз. Ужо без усялякіх гасцей сваімі сіламі зрабілі свята нікольکі не горшае за іншыя. Ва ўступным слове кіраўнік аршанскай суполкі ТБМ Ю.А. Нагорны якраз напомніў аб гісторыі "Міжнароднага дня роднай мовы", а потым правёў з намі дыктоўку і літаратурную віктарыну. Але самым прыемным для ўсіх было тое, што некаторыя з нас не толькі добра ведаюць і шануюць родную мову, але і нядрэнна складаюць на ёй свае вершы. Умацавала ў чарговы раз усіх нас сваімі патрыятычнымі і грамадзянскімі перакананнямі, выказанымі ў вершаванай форме на добрай беларускай мове Яўгенія Казлова - было чым і заслухацца і замілавацца.

А мясцовая паэтка-пачаткоўка Ірына Рабіна прачытала на добрай беларускай мове свае лірычныя і патрыятычныя, сямейныя і дзіцячыя вершаскладанні. Яна таксама пазнаёміла нас з выдадзеным нядаўна паэтычным зборнікам, у які ўвайшоў і яе тузін вершаў.

Добра распавядаў пра мову і чытаў свае вершы былы настаўнік беларускай мовы Мікола Камароўскі. Упрыгожыў нашу сустрэчу мясцовы самародак-гітарыст Уладзіслаў Лепяшынскі, які разам з Яўгенам Наквасам з'яўляецца стваральнікам гурта "Лепшы квас", які набірае папулярнасць у краіне. Яго выключна беларускія песні на словы вядомых аўтараў не пакінулі нікога абыякавым. І ўсе былі аднадушнымі ў тым, што наша мясцовая імпрэза была нікольکі не горшая за першую - са сталічнымі гасцямі.

Трэба дадаць, што ў гэты дзень шэрагі нашай суполкі папоўніліся некалькімі сябрамі.

***Мінай Карніенка,***
*сябар ТБМ, г. Орша.*

# Сход ТБМ у Салігорску

21 лютага 2016 года ў Міжнародны дзень роднай мовы адбыўся сход Салігорскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

На сходзе ў шэрагі ТБМ былі прыняты Наталля Аляксандраўна Скрыпаль (22.02.1980 г.н.) і Надзея Сямёнаўна Храдчэня (12.03.1949 г.н.). Аляксею Скрыпалю і Дзмітрыю Талпеку былі ўручаны пасведчанні сяброў ТБМ.

У шэрагах ТБМ аднаўлены і ўнесены ў спісы Салігорскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны 10 чалавек.

Справаздачу аб дзейнасці Салігорскай гарадской арганізацыі ТБМ за 2015 год зрабіў яе старшыня.

На сходзе таксама разглядалася пытанне аб падтрымцы дзейнасці Таварыства беларускай мовы. Было сказана, што самая простая дапамога дзейнасці ТБМ - гэта падпіска сябрамі ТБМ на пошце газеты ТБМ "Наша слова", кошт якой складае да 60 000 рублёў на паўгода, што даволі танна.

Удзельнікі сходу азнаёміліся са зваротам у Пастаянную камісію па заканадаўству Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь аб грубым парушэнні ў Беларусі артыкула 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які з'яўляецца гарантам роўнасці дзвюх дзяржаўных моў - беларускай і рускай.

***Уладзімір Масакоўскі,***
*старшыня Салігорскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".*

# Урок памяці Васіля Супруна




10 сакавіка споўніецца 90 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта, публіцыста, краязнаўца, археолага, ініцыятара і кіраўніка беларускага патрыятычнага моладзевага антысавецкага падполля ў 1946-1947 гадах на тэрыторыі Заходняй Беларусі (арганізацыя "Чайка") Васіля Супруна (1926-2007), які быў родам з вёскі Глоўсевічы Слонімскага раёна. З гэтай нагоды на Слонімшчыне запланаваны шэраг мерапрыемстваў. Першай такой згадкай стаў урок, прысвечаны памяці Васіля Супруна ў СШ № 2 г. Слоніма. Урок у 7-х класах правялі бібліятэкары Слонімскай раённай дзіцячай бібліятэкі. Яны арганізавалі невялікую выставу кніг Васіля Супруна, расказалі пра яго творчы шлях пасля сталінскіх лагераў, прачыталі вершы паэта. На ўрок быў запрошаны і даследчык беларускай літаратуры Сяргей Чыгрын. Ён распавёў пра сяброўства з Васілём Супруном, пра яго жыццёвы шлях, пра знаёмства Васіля Супруна і Ларысы Геніюш, пра земляка як археолага.




***Барыс Баль,***
*Беларускае Радыё Рацыя, Слонім.*
*Фота аўтара.*

# *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Шаноўныя сябры, ідзе падпіска на другі квартал 2016 года. У каталогу інфармацыя пра газету знаходзіцца на ст. 73. Цана змянілася нязначна. У 2016 годзе мы працягнем выходзіць на васьмі палосах. Газета мае добры рэдакцыйны партфель і планы для друку тэксты самых розных матэрыялаў, з рознымі поглядамі і падыходамі, у тым ліку і адрозных ад пазіцыі рэдакцыі. Мы будзем працягваць друк мовазнаўчых і гістарычных матэрыялаў у выкладанні тых аўтараў, якіх вы не знойдзеце на старонках іншых выданняў. Мы не стараемся навязваць чытачу сваю думку ці погляды, а падаём паведамленні і меркаванні саміх чытачоў. Чытайце, даведвайцеся, думайце. Будзьце з намі, і вы будзеце з усёй Беларуссю.

РП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на ~~газету~~ часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання) Колькасць камплектаў **1**

На 2016 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

на ~~газету~~ часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

**Кошт** падпіскі **29400** руб. пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2016 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

**Каму** (прозвішча,ініцыялы)

**Куды** (адрас)

(паштовы індэкс)

# Два тыдні роднай мовы на Лідчыне

## *Міжнародны дзень роднай мовы ва ўстановах адукацыі Лідскага раёна*

Моцны клічнік у лідскім марафоне з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы паставілі ўстановы адукацыі Лідскага раёна. Быў праведзены цэлы шэраг мерапрыемстваў:

**1. Лінгвістычны конкурс "Буслік"**

18.02.2016 прайшоў рэспубліканскі лінгвістычны конкурс "Буслік", у якім прынялі ўдзел **1998** вучняў з 33 устаноў адукацыі Лідскага раёна.

**2. Дыктоўка на беларускай мове, прысвечаная Дню роднай мовы**

Згодна з рэкамендацыямі Лідскага райвыканакама (№ 02-6/25 ад 03.02.2016) ва ўсіх установах адукацыі (2-11 кл.) на класных гадзінах настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры праведзена дыктоўка з мэтай папулярызацыі і падтрымкі беларускай мовы. У дыктоўцы ўзялі ўдзел **5365** чалавек.

**3. Акцыя "Гавары са мной па-беларуску"**

Ва ўсіх установах адукацыі у межах правядзення Тыдня беларускай мовы прайшла акцыя "Гавары са мной па- беларуску".

**4. Кніжныя выставы і інш.**

Ва ўсіх установах адукацыі Лідскага раёна былі падрыхтаваны выставы кніг, прысвечаных Міжнароднаму дню роднай мовы, пісьменнікам - юбілярам.

Тэматыка выстаў рознабаковая: "Юбіляры 2016 года: пісьменнікі, кнігі", "Адвечны голас Радзімы", "Шануйце роднае слова", "Чароўная краіна паэзіі", "Свята роднай мовы", "Родная мова - крыніца святая", "Іх слаўныя імёны", "Беларуская палічка", "Ты будзеш звінець, мая родная мова!" і інш.

**5. Размяшчэнне інфармацыі аб мерапрыемствах на стэндах і сайтах устаноў адукацыі**

Ва ўсіх установах адукацыі былі аформлены інфармацыйныя стэнды, прысвечаныя Дню роднай мовы.

Настаўнікі і адміністрацыя СШ № 9 г. Ліды, Ганчарскага ВПК д/с-СШ, Гудскага ВПК д/с-БШ на сваіх сайтах аформілі беларускамоўныя старонкі, прысвечаныя Міжнароднаму дню роднай мовы.

**6. Тэматычныя вечарыны (літаратурна-музычныя кампазіцыі) для вучняў старэйшых класаў**

Настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры ліцэя № 1 г. Ліды, СШ № 1, СШ № 4, СШ № 8, СШ № 12, СШ № 16 г. Ліды, Мінойтаўскай СШ, Тарноўскай СШ былі падрыхтаваны і праведзены літаратурныя гасцёўні, літаратурна-музычныя кампазіцыі ("Над Белай Руссю - белы бусел", "Мова беларуская мая", "Зямля пад белымі крыламі", "Багата, родная ты мова!", "Святло лучыны", "Гучы, родная мова!", "Люблю свой край, старонку гэту", "Гучыць беларускае слова", "І. Шамякін - чалавек - эпоха" і інш.).




**7. Конкурсы на лепшага дэкламатара твораў, прысвечаных роднай мове**

Конкурсы на лепшага дэкламатары твораў прайшлі ў СШ № 1, СШ № 5, СШ № 6, СШ № 12, СШ № 13, СШ № 15, СШ № 16 г. Ліды, гімназіі № 1 г. Бярозаўкі, Бердаўскім ВПК д/с-СШ, Ваверскай СШ, Ганчарскім ВПК д/с-СШ, Гудскім ВПК д/с-БШ, Дварышчанскім ВПК д/с-СШ, Ёдкаўскай СШ, Першамайскай СШ, Пескаўскім ВПК д/с-СШ, Тарноўскай СШ, Ходараўскім ВПК д/с-СШ.

**8. Выстава дзіцячых малюнкаў да твораў бел. пісьменнікаў**

Праведзены конкурсы малюнкаў у СШ № 1, СШ № 10, СШ № 12, СШ № 15, СШ № 16 г. Ліды, гімназіі № 1 г. Бярозаўкі, Бердаўскім ВПК д/с-СШ, Ваверскай СШ, Ганчарскім ВПК д/с-СШ, Дзітвянскай СШ, Тарноўскай СШ.

У СШ № 2 г. Бярозаўкі - конкурс паштовак "Віншуем родную мову" (да Міжнароднага дня роднай мовы).

**9. Конкурсы, інтэлектуальныя гульні**

Цікава і займальна прайшлі конкурсы эрудытаў, моўныя турніры, інтэлектуальныя гульні, КВЗ, квэст - гульні сярод вучняў СШ № 4, СШ № 8, СШ № 11, СШ № 12, СШ № 14, СШ № 17 г. Ліды, СШ № 2 г. Бярозаўкі, Бярозаўскай СШ № 3, Ваверскай СШ, Дзітвянскай СШ, Дварышчанскага ВПК д/с-СШ, Крупаўскай СШ, Першамайскай СШ, Тарноўская СШ.

**10. Віктарыны**

Штогод вучні праяўляюць свае веды беларускай мовы і літаратуры на віктарынах, якія праводзяць для іх настаўнікі ліцэя № 1 г. Ліды, гімназіі № 1 г. Ліды, СШ № 1, СШ № 11, СШ № 12, СШ № 14, СШ № 15, СШ № 16, СШ № 17 г. Ліды, Беліцкага ВПК д/с-СШ, Гудскага ВПК д/с-БШ, Бердаўскага ВПК д/с-СШ, Ёдкаўскай СШ, Мажэйкаўскай СШ і інш.

**11. Выпуск насценных газет**

Пры афармленні насценгазет і плакатаў вучні СШ № 8, СШ № 9, СШ № 10, СШ № 12, СШ № 13 г. Ліды, гімназіі № 1 г. Бярозаўкі, Бярозаўскай СШ № 3, Ходараўскага ВПК д/с-СШ прадэманстравалі не толькі літаратурныя, але і мастацкія здольнасці.

**12. Сустрэчы з пісьменнікамі (паэтамі) і экскурсіі**

У час святкавання Дня роднай мовы настаўнікі ліцэя № 1, СШ № 9 г. Ліды і Мінойтаўскай СШ правялі творчыя сустрэчы з пісьменнікамі Лідчыны.

Для вучняў СШ № 1, СШ № 5, СШ № 12, СШ № 16 г. Ліды, гімназіі № 1 г. Бярозаўкі былі арганізаваны экскурсіі ў школьныя музеі ("Падарожжа ў беларускую хатку", "Краязнаўчы калейдаскоп", "Нам засталася спадчына", "Вышыўка і ткацтва", "Рамёствы беларусаў" і інш.).

Такім чынам у выніку магутнай падтрымкі аддзела адукацыі 9-ю Агульнанацыянальную дыктоўку на Лідчыне пісалі больш за **5,5 тысяч** чалавек у каля **20** населеных пунктах Лідчыны. Гэта яшчэ не поўны ахоп раёна, але лік ужо ідзе на тысячы, і рэзервы таксама яшчэ ёсць.

*Яраслаў Грынкевіч.*

## *Літаратурная сустрэча ў СШ № 9 г. Ліды*




Літаратурная сустрэча ў СШ № 9 г. Ліды, мабыць, завяршала двухтыднёвік роднай мовы на Лідчыне.

На сустрэчу са школьнікамі прыйшлі паэты Алесь Хітрун - старшыня літаб'яднання "Суквецце", паэт Станіслаў Суднік і бард Сяржук Чарняк - старшыня і намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ.

Па гэтай школе можна меркаваць і пра тое як выглядалі і іншыя школы ў гэтыя два



тыдні. У фае разгорнута выстава з партрэтамі пісьменнікаў - юбіляраў 2016 года і малюнкамі серыі "Смак роднай мовы". Зала была ўважлівай і жыва рэагавала на пытанні і павароты гутаркі. Было відно, што мова для дзяцей не чужая, за што вялікі дзякуй настаўнікам, бо 9-я школа - гэта Паўднёвы вайсковы гарадок са сваёй спецыфікай. Тым не менш тут цудоўныя беларускія дзеці і цудоўныя настаўнікі.



*Яраслаў Грынкевіч.*

## "Вянок санетаў" ад юных мастакоў

Падведзены вынікі раённага конкурсу дзіцячага малюнка "Вянок санетаў", прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння паэта Максіма Багдановіча. Яго ініцыятар і арганізатар - Лідская дзіцячая мастацкая школа. Удзельнікамі конкурсу сталі больш за пяцьдзесят юных мастакоў з дзіцячай мастацкай школы, дзіцячай школы мастацтваў, Лідскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі і Бярозаўскага цэнтра дзіцячай творчасці. Яны прадставілі журы 125 прац у намінацыях "Партрэт", "Беларускі пейзаж", "Зорка Венера", "Этнаграфія", "Фальклор", "За арыгінальнасць", "За творчае перажыванне" і "Рамантычны малюнак". Пераможцам конкурсу "Вянок санетаў" стала першакласніца Лідскай дзіцячай мастацкай школы, вучаніца Анастасіі Урублеўскай Сафія Алейнік. Высокую адзнаку атрымала яе карціна "Мае песні".





Па выніках конкурсу дзіцячага малюнка "Вянок санетаў" Лідская дзіцячая мастацкая школа выдала складанку вершаў Максіма Багдановіча, ілюстраваную дваццаццю лепшымі конкурснымі працамі юных мастакоў. Вельмі добра было б знайсці грошы і раздрукаваць гэтую складанку большым накладам.

*ЛідаТБ.*

# Усё сучаснае мастацтва Лідскага раёна - у адной экспазіцыі




У рамках дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2011-2015 гады ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі адкрылася пастаянная экспазіцыя "Сучаснае мастацтва краю".

Ці ёсць муза для сучаснага мастацтва? Ці актуальна такое паняцце, як натхненне? Мастак чакае яго ці вынаходзіць сам? У новым экспазіцыйным праекце музея ва ўсёй сваёй шматаблічнасці паўстала муза дзясятка розных аўтараў. Тут яна загадвае і падпарадкоўваецца, дыктуе і падказвае, тут яна сама вядзе дзённік - дзённік сучаснага мастацтва Лідскага раёна.

- Сюды ўвайшлі вельмі розныя па тэхніцы, погляду на свет і творчым почырку творы жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва, - знаёміць з экспазіцыяй яе куратар, старэйшы навуковы супрацоўнік гістарычна-мастацкага музея Таццяна Нікіфарава. - Такі сінтэз абумоўлены жаданнем пазнаёміць гледача з той творчай шматстатнасцю і патэнцыялам, якімі багаты наш рэгіён.

Не гледзячы на тое, што дамінанта - гэта аўтарскія працы, "Сучаснае мастацтва краю" знаёміць гледача ў тым ліку і з рознымі мастацкімі школамі: віцебскай, менскай, гарадзенскай. Прадстаўлены тут і адзін з галоўных брэндаў нашага рэгіёна - "нёманскае" шкло. Але галоўная "заслуга" экспазіцыі ўсё ж у пераемнасці пакаленняў: на адной пляцоўцы ўжываюцца і ўжо прызнаныя мэтры, і аўтары, якія толькі "ствараюць" сабе імёны. Каб дагадзіць і старэйшаму, і маладому пакаленню, мастацкае афармленне экспазіцыі літаральна балансуе на грані. Белая падлога, драпіраванне столі струменямі тканіны, люстэрка на ўсю сцяну, шкляныя стэлажы, шмат святла і паветра - гэта не "цукровая" класіка, але і не адкрыты хай-тэк. Мастак-афармляльнік экспазіцыі Юлія Бурбліс характарызуе такое рашэнне як "драматургію канфлікту".

З наватарскага, таго, што адназначна прыйдзецца па душы моладзі і зацікавіць людзей старэйшых - шырокаэкранны сэнсарны інфакіёск.

- Ён утрымоўвае 872 старонкі, на якіх змешчана інфармацыя пра аўтараў, якія нарадзіліся ці цяпер жывуць у Лідскім раёне, іх працы, фатаграфіі, адсканаваныя артыкулы, - распавядае распрацоўнік лакальнага сайта, супрацоўнік гістарычна-мастацкага музея Мікалай Іода, - Тут ёсць і 15-хвілінныя відэапраграмы "Адлюстраванне", над якімі працавалі журналісты мясцовага тэлебачання Марына Грыгор'ева і Аляксандр Плескачоў. Такая электронная энцыклапедыя, якая будзе папаўняцца новымі імёнамі, фактамі і працамі.




…"Сучаснае мастацтва краю" - гэта экспазіцыя дня сённяшняга. А гэта значыць, што пад уплывам часу, па ходу творчага росту і з'яўлення новых аўтараў яна абавязкова будзе змяняцца. І ў гэтай сталай незавершанасці ўтоены ўнікальнасць экспазіцыі, яе непадобнасць і яе прывабнасць.

* * *

У Лідскім гістарычна-мастацкім музеі адбылася яшчэ адна вельмі значнае не толькі для нашага горада, але і для краіны ў цэлым падзея - адкрыццё майстэрні ганаровага акадэміка Расійскай акадэміі мастацтваў, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Мурахвера. Тут сабраны ўсе рэчы з майстэрні-студыі, якая размяшчалася ў Бярозаўцы і ў якой з 1968 года працаваў мастак.

- Уладзімір Сямёнавіч цяпер не карыстаецца майстэрняй, - распавядае навуковы супрацоўнік музея Таццяна Нікіфарава. - Уся маёмасць са студыі, уключаючы мантыю ганаровага акадэміка, па яго рашэнні і згодзе сям'і перададзена нам. За гэтакі шчодры дарунак калектыў музея выказвае шчырую падзяку. Пад майстэрню мы адвялі асобнае памяшканне, імкнучыся захаваць творчую атмасферу.




Каб зразумець усю каштоўнасць і важнасць стварэння майстэрні Уладзіміра Мурахвера, яе трэба наведаць. Тут фатаграфіі мастака, няскончаныя карціны, эцюды, замалёўкі, фарбы і пэндзлікі, якімі ён маляваў, палітра… Было адсканавана 15 нататнікаў рознай таўшчыні з графічнымі замалёўкамі Уладзіміра Сямёнавіча, а гэта больш 900 прац. Кожную з іх на месцы можна пагледзець у электронным варыянце.



…У майстэрні мастака заўсёды пануе цішыня, да пэўнага часу так было і ў майстэрні Уладзіміра Мурахвера. Надалей у ёй заўсёды будзе шумна - гэтага ў першую чаргу жадае сам Уладзімір Сямёнавіч. Мастак вельмі любіць дзяцей. Таму калі раней здароўе дазваляла, ён заўсёды знаходзіў час на выкладанне, тым самым імкнучыся прышчапіць ім любоў да мастацтва і разуменне яго. Яго справа працягнецца. У майстэрні будуць праходзіць заняткі і прагляды для выхаванцаў школ з мастацкім ухілам. У якасці "натуршчыкаў" выступяць эскізы і іншыя працы легендарнага Уладзіміра Мурахвера.




У падзяку за адкрыццё майстэрні Уладзіміра Мурахвера яго калега і сябар, Прэзідэнт Расійскай акадэміі мастацтваў Зураб Цэрэтэлі даслаў Лідскаму гістарычна-мастацкаму музею тэлеграму, у якой - шчырыя словы ўдзячнасці і пажаданні дабра.

***Вікторыя Русілевіч,***
*сайт "Лідскай газеты".*



№ 10 (1265) 9 САКАВІКА 2016 г. НАША СЛОВА

# “Паходні” - 30 гадоў

12 сакавіка спаўняецца 30 гадоў гарадзенскаму гістарычна-культурніцкаму клубу аматараў роднага краю "Паходня". Гэта першая нацыянальна-культурніцкая пляцоўка, якая паўстала ў Гародні ў часы Перабудовы.



*Гародня, вуліца Дзяржынскага, 1, Гарадскі дом культуры. У гэтым будынку з 1986 да 2005 года адбываліся паседжанні Гарадзенскага гарадскога гістарычна-культурнага аб'яднання "Паходня". Да 1989 года прэзідэнтам клуба быў выдатны навуковец і палітычны дзеяч Міхась Ткачоў.*

У сярэдзіне 1980-х гадоў у Гародні супрацоўнік Інстытута біяхіміі АН БССР Мікола Таранда з парады сяброў прачытаў кнігу Кастуся Тарасава "Памяць пра легенды". Уражанне ад велічнай гісторыі Беларусі было такім моцным, што ўзнікла ідэя арганізаваць



клуб, каб сустракацца з такімі людзьмі, як той жа Тарасаў, вывучаць і прапагандаваць гісторыю і культуру краю. На першае паседжанне сабраліся 19 чалавек. Пастанавілі самім размаўляць па-беларуску. На дыспуты, вечарыны, сустрэчы з зоркамі беларускай літаратуры, навукі, культуры, якія лічылі за гонар прыехаць у Гародню і выступіць перад "Паходняй", прыходзілі пазней сотні людзей. Дыскусіі неўзабаве пачалі набываць і палітычны характар.

Найважнейшай справай лічылі абарону старажытнага горада ад руйнавання. Удалося зберагчы шэраг будынкаў XVIII стагоддзя на плошчы Леніна, хаця з гэтага мелі непрыемнасці. А вось спроба ўратаваць будынак вакзала мела адваротны вынік - нават паскорыла яго знос.

На трэцяе паседжанне клуба прыйшоў ужо знакаміты гісторык Міхась Ткачоў. Ён спачатку не хацеў быць ганаровым прэзідэнтам клуба, але, - кажа нязменны старшыня клуба Мікола Таранда, - "калі за нас узяліся, пасля таго як у Менску адбыўся разгон "Гукання вясны", пасля таго як мы выступілі ў абарону будынкаў на плошчы Леніна, ён сказаў: "Так і быць, я згодны быць прэзідэнтам "Паходні", магчыма, мой аўтарытэт дапаможа захаваць клуб". Пасля гэтага мне адзін работнік культуры сказаў: "Мы табе так давяралі, але як ты мог паставіць на чале "Паходні" такога антысаветчыка, як Ткачоў?!"

Веды і красамоўства прафесара Ткачова зрабілі паседжанні і акцыі "Паходні" надзвычай папулярнымі. Дзейнасць клюба апынулася пад пільным вокам КДБ. Усе "шышкі" валіліся на Ткачова, хоць ён часам нават стрымліваў актыўнасць сяброў клуба. І пасля пераезду Міхася Ткачова ў Менск клуб працягваў і працягвае працаваць, нягледзячы на пераслед з боку ўладаў.

- Самае галоўнае, што ў нас выхаваліся людзі. І кожны мае сваю арганізацыю, ці гістарычную, ці нейкі хор. Практычна ўсімі гарадзенскімі арганізацыямі кіруюць тыя, хто калісьці быў у "Паходні", - кажа Мікола Таранда. - Да нас прыходзілі людзі творчыя - мастакі, музыканты, літаратары, гісторыкі. Хачу назваць такія імёны як Аркадзь Жукоўскі, Міхась Амялішка, Аляксандр Талерчык, Віктар Сазонаў. Сярод сяброў "Паходні" былі акадэмік, член-карэспандэнт Акадэміі навук, больш за два дзясяткі дактароў навук. Менавіта "Паходня" абудзіла грамадскую актыўнасць інтэлектуалаў, зрабіла іх неабыякавымі да лёсу сваёй краіны

Клуб фактычна стаў гісторыяй, хоць афіцыйна ён працягвае існаваць.

*Паводле СМІ.*

**БЯСПЛАТНЫЯ ЗАНЯТКІ ПА-БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ, АРХЕАЛОГІІ І ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ З ДЭМАНСТРАЦЫЯЙ ВІДЭАМАТЭРЫЯЛАЎ**
**для вучняў 7-х-9-х класаў з вядомымі навукоўцамі і педагогамі!**
**Арганізацыйны сход на сядзібе ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" (вул. Румянцава, 13, ст. метро "Плошча Перамогі") 15 сакавіка 2016 г. (аўторак).**
**Пачатак - 16.30.**

**Прэзентацыя ўнікальнай аўтарскай анталогіі паэтаў Еўропы і Амерыкі "І боль, і прыгажосць" з удзелам перакладчыка Лявона Баршчэўскага на сядзібе ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" (вул. Румянцава, 13, ст. метро "Плошча Перамогі") 22 сакавіка 2016 г. (аўторак).**
**Пачатак - 18.30.**

# Тыдзень беларускай мовы ў Магілёве

18 лютага, у Тыдзень беларускай мовы, пісьменніца, сябра СБП Тамара Аўсяннікава сустрэлася з адзінаццацікласнікамі Магілёўскага дзяржаўнага абласнога ліцэя № 2.

Тамара Пятроўна распавяла аб літаратурным жыцці Магілёва, пра альманах "Брама" Магілёўскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", працу гарадскога літаратурнага клуба "Святліца", якім кіруе сама паэтка. Таксама спадарыня Тамара прэзентавала сваю кнігу паэзіі "Скрыжалі", якая выйшла ў 2015 годзе ў Бібліятэцы СБП "Кнігарня пісьменніка".



Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Лілея Давыдзенка пазнаёміла шаноўную госцю з тым, чым вызначыўся сёлетні Тыдзень беларускай мовы ў ліцэі: вучні з задавальненнем удзельнічалі ў акцыях: "Маё любімае слова па-беларуску" і "Спяваем разам".



Адбыліся ў Магілёве і інтэлектуальныя гульні "Літаратурны калейдаскоп", "Паляванне на слова"; з вялікай адказнасцю падышлі навучэнцы да выпуску газет "Пісьменнікі юбіляры"; тэме кахання быў прысвечаны конкурс чытальнікаў. А напрыканцы Тыдня спеўна прагучаў Фестываль беларускай песні.

*Ул. інф. Магілёўскага абласнога аддзялення СБП,*
*фота Ганны Піскуновіч.*

# Нявестка добрая, як дачка родная




Ужо стала добрай традыцыяй праводзіць у Мажэйкаўскім Доме культуры мерапрыемствы пра сваяцкія адносіны "Мая свякроўка - мудрая галоўка", "Мой зяць, як у людзей пяць". А пятага сакавіка адбылася раённая конкурсная шоў-праграмы "Нявестка добрая, як дачка родная".

Спонсарам праграмы выступіла раённая арганізацыя Беларускага прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу. Усе ўзельніцы таксама працуюць у аграпрамысловым комплексе: Ашмяна Вольга Мікалаеўна працуе ў ЛРСУП "Мажэйкава", Юсько Вераніка Леанідаўна працуе ў ЛРСУП "Мажэйкава", Буйко Тарэса Станіславаўна працуе ў КСУП "Беліца-Агра".

Пакуль удзельніцы рыхтаваліся да конкурсаў, для гледачоў спявалі: Эдуард Антонік, Леанід Петрукевіч, Дзмітрый Лінга, Мікалай Жукаў і Ўладзімір Бачыла.

Мерапрыемства адбылося напярэдадні свята - Дня жанчын і нагадала, што ўсё самае лепшае і прыгожае ў жыцці звязана з жанчынамі, што жанчыны не толькі працуюць ў вытворчасці, але з'яўляюцца захавальніцамі сем'яў.

*ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці".*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.
**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі “Выдавецкі дом ТБМ”.
Газета падпісана да друку 7.03.2016 г. у 17.00. Замова № 521.
Аб’ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 9800 руб., 3 мес.- 29400 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.